*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№28 жнівень 2013**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## 30 жніўня – Міжнародны дзень зніклых

***У Беларусі няма войнаў і узброеных канфліктаў, але чатыры вядомыя чалавекі больш за 10 гадоў таму зніклі без звестак.***



**Дзякуючы намаганням праваабарончых арганізацыяў у 1992 годзе Генеральная Асамблея ААН прыняла адмысловую дэкларацыю ў пытанні гвалтоўных выкраданняў. Гвалтоўнае выкраданне было прызнанае злачынствам у канстытуцыях шэрагу краінаў свету. У снежні 2006 года Генеральная Асамблея прыняла Канвенцыю аб абароне ад гвалтоўнага выкрадання. Упершыню ў гісторыі з’явіўся міжнародны дакумент, які абавязвае ўрады ўключаць выкраданні людзей у лік злачынстваў, прадугледжаных заканадаўствам, а таксама гарантаваць судовае расследаванне і пакаранне вінаватых. Канвенцыя ставіць па-за законам сакрэтнае ўтрыманне пад вартай, патрабуе паведамляць сваякам і адвакатам аб месцы знаходжання затрыманых і прычынах іх затрымання.**

**Дакумэнт падпісалі больш за 80 дзяржаваў.**
**Беларусь гэтай канвенцыі не падпісала.**

## “Законнасць па-гродненску”: адмову на пікет 4 жніўня гарвыканкам даў... 6 жніўня



Толькі 6 жніўня праваабаронца Віктар Сазонаў атрымаў праз пошту афіцыйны адказ Гарадзенскага гарвыканкаму на заяўку пра правядзенне пікету, які планаваўся 4 жніўня ў падтрымку зняволенага кіраўніка ПЦ “Вясна” Алеся Бяляцкага. А між тым, заяўнікі адпаведны ліст з заяўкай быў афіцыйна зарэгістраваны яшчэ 19 ліпеня – у тэрмін, які адпавядае заканадаўству.

Такі абсурд з афіцыйным адказам выканкаму тлумачыць сам праваабаронца: “Гэтая сітуацыя паказвае тое, што ўлада сама настолькі скампраметавала сваё заканадаўства, што нават чыноўнікі не звяртаюць на яго ўвагу і не выконваюць элементарныя юрыдычныя палажэнні. Маю падазрэнне таксама, што пры сённяшнім становішчы новыя маладыя чыноўнікі не ведаюць нормаў заканадаўства, а такая сітуацыя рана ці позна прывядзе да краху ўсёй праўнай сістэмы, які адаб’ецца ў тым ліку і на самых чыноўніках”.

## “Дзень Бяляцкага” ў Гродне




Жыхары гораду над Нёманам сёння змаглі атрымаць адмысловыя паштоўкі з выявай Алеся Бяляцкага і тэкстам пра сітуацыю са зняволеным лідарам Праваабарончага цэнтра “Вясна”. Некалькі соцень такіх паштовак нагадалі гарадзенцам пра сітуацыю з зняволеным праваабаронцам.

Цягам усіх гэтых двух гадоў, калі Алесь Бяляцкі знаходзіцца за кратамі, гарадзенскія праваабаронцы перыядычна даводзяць да землякоў інфармацыю пра яго. Праводзіліся публічныя падпісванні паштовак, выпускаліся адмысловыя канверты, праводзіліся іншыя мерапрыемствы. Паплечнікі кіраўніка “Вясны” і надалей плануюць падтрымліваць свайго калегу і сябра.

## Два гады таму быў арыштаваны Алесь Бяляцкі



4-га жніўня спаўнілася роўна два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага — віцэ-прэзідэнтаМіжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўніка закрытага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна».Да гэтай даты прымеркаваны Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.

Алесь Бяляцкі быў затрыманы ў Мінску 4 жніўня 2011 года. У лістападзе таго ж года суд прызнаў яго вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры і асудзіў да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Праваабаронца адбывае пакаранне ў Бабруйску, ён афіцыйна прызнаны вязнем сумлення.

Да даты арышту Алеся Бяляцкага прымеркаваны Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі. Акцыя прысвечана «сучасным гуманістам і летуценнікам, а таксама тым людзям і арганізацыям, якія ўвасабляюць сабой Беларусь свабоды і супрацiву». Акцыі салідарнасці рыхтуюцца ў гэтых і іншых краінах свету.

Што да Беларусі, то заяўкі на правядзенне 4 жніўні пікетаў салідарнасці з палітвязнямі былі пададзеныя ў больш чым дзесяці гарадах, аднак усюды правядзенне акцый было забаронена мясцовымі ўладамі.

## Акцыі салідарнасці з Алесем Бяляцкім у Беларусі, Еўропе, па ўсім свеце

У нядзелю 4 жніўня 2013 г. споўнілася два гады з дня адвольнага арышту Алеся Бяляцкага, прэзідэнта праваабарончага цэнтра "Вясна" і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH).

Нягледзячы на рызыку арыштаў і пераследу, многія праваабаронцы ў Беларусі правялі акцыі салідарнасці з Алесем і іншымі палітычнымі вязьнямі. Большасць гэтых мірных акцый, у ходзе якіх мінакам раздавалі ўлёткі з фатаграфіяй Алеся і расказвалі пра яго, прайшлі без ўмяшання паліцыі. Аднак у панядзелак, 5 жніўня, у Мінску былі затрыманыя праваабаронцы з цэнтра «Вясна» - Таццяна Равяка і Уладзімір Лабковіч, яны распаўсюджвалі ўлёткі з інфармацыяй аб гэтым чалавеку. У аўторак, 6 жніўня, яны былі аштрафаваныя на суму 3,000,000 беларускіх рублёў кожны за парушэнне закона аб арганізацыі і правядзенні масавых мерапрыемстваў. Напярэдадні, 4 жніўня, Дыяна Буракова - валанцёр праваабарончай арганізацыі «Вясна» была затрыманая ў г. Магілёве пасля такой жа мірнай акцыі. Гэтыя факты яшчэ раз даказваюць, што нападкі на цэнтр "Вясна" і іншыя праваабарончыя арганізацыі ў Беларусі не спыняюцца.

У Еўропе таксама прайшлі акцыі салідарнасці. У Вільні перад пасольствам Беларусі адбылася акцыя пратэсту: каля трыццаці удзельнікаў пікету сталі на вуліцы каля амбасады, хаваючы твары пад папяровымі маскамі з выявай Бяляцкага. У рамках Міжнароднага дня салідарнасці з Беларуссю прайшлі акцыі ў некалькіх гарадах Польшчы, Украіны, Расіі, Германіі, а таксама ў Нарвегіі, Швецыі, Швейцарыі, Чэшскай Рэспубліцы, Вялікабрытаніі, Італіі, Кыргызстане, Казахстане, Азербайджане, Арменіі і ЗША.

# Белыя рыцары

***4 жніўня споўнілася два гады з дня арышту і фактычнага зняволення лідара праваабарончага руху Беларусі Алеся Бяляцкага. Чалавек, якога ведае фактычна ўвесь цывілізаваны свет, апынуўся за кратамі паводле выраку суда, які відавочна быў палітызаваным і вынік якога быў заранёў вызначаным. Калі ўжо была пачата крымінальная справа нібыта за нявыплату падаткаў, Алеся Бяляцкага выпускалі з краіны, ускосна нават падштурхоўвалі да гэтага. Калі б кіраўнік “Вясны” зрабіў такі крок, яго зразумела б пераважная бальшыня аднадумцаў і паплечнікаў, як мы разумеем многіх цяперашніх палітычных эмігрантаў, якім рэальна пагражала турма і якія пакінулі Беларусь. Мяркую, так думаў і сам Алесь Бяляцкі, свядома робячы свой выбар і асэнсоўваючы наступствы зняволення.***

Але ёсць людзі на гэтым свеце, якія дакладна ведаюць сваю місію і сваё прызначэнне. Перакананы, што калі Алесь Бяляцкі пастанавіў сабе змагацца за праўду да апошняга, ён думаў ня толькі пра сябе. Алесь Бяляцкі – гэта сапраўдны рыцар свабоды. ¨н думаў і пра тых людзей – палітычных вязняў, якія ўжо былі за кратамі пасля Плошчы 2010 году, і пра тых людзей, якія былі на свабодзе, але маглі туды трапіць. ¨н напэўна думаў і пра агульную беларускую сітуацыю, на якую, седзячы за мяжой, ён наўрад ці мог так уплываць. ¨н зрабіў свой маральны выбар. ¨н заставаўся ў Беларусі да канца і на самым працэсе яшчэ раз выразна і сваёй паставай і лагічнымі аргументамі сцвердзіў сваю невінаватасць і адпаведна абсурднасць абвінавачвання. ¨н цудоўна ўсведамляе свой высокі статус у сусветным праваабарончым руху. Ахвяруючы сваёй асабістай свабодай, Алесь Бяляцкі прыцягваў і прыцягвае далей увагу міжнародных структураў і арганізацый да грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі. А праваабарончы цэнтр “Вясна”, які стварыў з сябрамі і паплечнікамі Алесь Бяляцкі, дапамог ужо за сваю сямнаццацігадовую гісторыю тысячам без віны пацярпелым суграмадзянам. І працягвае сваю высакародную дапаможную місію надалей, фармуе беларускую салідарнасць і грамадзянскую супольнасць, нягледзячы на сістэмны пераслед у розных формах яго сябраў.

За апошні час мне прыйшло



праз пошту некалькі лістоў – ад Алеся Бяляцкага, ад Зміцера Дашкевіча, ад Паўла Севярынца. Тры палітвязні, тры змагары, тры вернікі – прычым прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій. Не перастаю здзіўляцца моцы і нязломнасці духу гэтых людзей, якія знаходзячыся ў зняволенні, працягваюць натхняць іншых, усіх нас, якія жывуць і працуюць у значна больш камфортных умовах. У сваіх лістах яны часта спасылаюцца на евангельскія тэксты, якія сілкуюць іх дух. Увогуле, усе нашы дванаццаць палітвязняў, якія зараз у турмах – гэта сапраўдныя апосталы духу, белыя рыцары нашай свабоды. У гэтым была магчымасць пераканацца неаднаразова, гэта ціхія, але выразныя героі, якія ратуюць гонар нацыі, што ў сваёй пераважнай бальшыні пагрузла ў крывадушнасці і абыякавасці, у хцівасці і злоснасці, у зайздрасці і прыстасаванстве. Ратуюць гонар нацыі, што ніяк не можа ў сваёй крытычнай масе адрозніць свайго і сапраўднага ад чужынскага і фальшывага.

А дзяржаўная ўлада, якой бы магутнай яна не здавалася, заўсёды прайграе тым каго яна несправядліва пераследуе, чым бы не скончылася зняволенне гэтых мужных людзей. Таму ёсць шматлікія прыклады з гісторыі – даўняй і найноўшай. Ва ўлады ёсць толькі адно выйсце хоць неяк ўратаваць сваё аблічча – гэта неадкладна выпусціць палітычна зняволеных і поўнасцю іх рэабілітаваць. Наўрад ці ўлада на гэтае здольная, хоць на гэтым свеце здараецца ўсялякае.

Беларусь – вялікая краіна не толькі таму, што мае надзвычай багатую гістарычную і культурную спадчыну. Беларусь – вялікая краіна і таму, што мае сёння такіх самаахвярных сыноў, мае такіх змагароў за справядлівасць, мае такіх Белых рыцараў…

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

*Гарадзеншчына, чэрвень-жнівень*

## Крымінальныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці

**У чэрвені ў Шчучынскім раёне мясцовая міліцыя пачала крымінальную справу ў дачыненні да жыхара вёскі Аляксандраўка, каталіцкага верніка Аляксея Шчадрова, які арганізаваў у вёсцы прытулак для бяздомных. Яго абвінавачваюць паводле артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса ў тым, што ён “арганізаваў дзейнасць незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі і забяспечыў умовы яе функцыянавання без рэгістрацыі.**

## Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці

**19 чэрвеня** ў Шчучыне прайшоў разгляд адміністрацыйных спраў у дачыненні да старшыні Саюзу палякаў у Беларусі Мечыслава Яськевіча і сябры арганізацыі Веранікі Себасьцяновіч. Абодвум з боку Шчучынскага РАУС інкрымінавалася арганізацыя несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. У выніку працэсу, на які прыехала больш 50 актывістаў Саюзу палякаў, журналістаў і праваабаронцаў, Мечыслаў Яськевіч аштрафаваны на 40 базавых велічынь – 4 мільёны беларускіх рублёў, Вераніка Себасьцяновіч – на 25 базавых – 2 мільёны пяцьсот тысяч.

**25 ліпеня** ў Ашмянскім раённым судзе чарговы раз разглядалася справа грамадскага актывіста з Астравеччыны Мікалая Уласевіча. У выніку разгляду суд абавязаў Ашмянскую мытню вярнуць Уласевічу ягоныя дыктафон і два дыскі DVD. Што найбольш істотна – суд пастанавіў выплаціць коштам казны Рэспублікі Беларусь як вяртанне стратаў Уласевіча кошт канфіскаваных і знішчаных рэчаў, а таксама судовыя выдаткі, якія былі ў актывіста.

## Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

У пачатку чэрвеня быў скасаваны працягнуты месяц таму працоўны кантракт з доктарам Іванам Шэгам, слонімскім грамадска-палітычным актывістам, сябрам партыі БНФ. З 28 чэрвеня ён стаў беспрацоўным. Слонімцы Іван Бедка і Віктар Марчык звярнуліся ў раённы выканкам з заявай на дазвол правесці 27 чэрвеня пікет ў падтрымку лекара. Пікет не быў дазволены.

12 чэрвеня грамадскі актывіст з Астравеччыны Мікалай Уласевіч накіраваў ужо шосты па ліку зварот у Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Усе ранейшыя звароты вярнуліся да яго без разгляду па сутнасці. Да чарговага звароту Уласевіч прыклаў таксама скаргу на 30 старонках, якая пайшла таксама у Вярхоўны суд на пастанову суда па адміністрацыйнай справе па арт. 23.4 КаАП. У адпаведнасці з арт.166-168, 172 ,173 КПК Уласевіч просіць Генеральную пракуратуру правесці адпаведную праверку па незаконных дзеяннях праваахоўных органаў Астравецкага раёну ў час выбарчай кампаніі 2012 году.



У чэрвені Гарадзенскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу ў справе пра фотаальбом «Belarus Press Photo 2011». Сёлета ў красавіку 2013 года суд Ашмянскага раёна Гарадзенскай вобласці прызнаў фотаальбом экстрэмісцкім. 41 асобнік альбома «Belarus Press Photo 2011» канфіскавалі ў фатографаў Юліі Дарашкевіч і Аляксандра Васюковіча ў лістападзе мінулага года на памежным пераходзе «Каменны Лог».

# Хроніка правапарушэнняў

***Гарадзеншчына, чэрвень-жнівень***

У пачатку ліпеня Віктар Марчык, адзін з актывістаў Слонімскага аб'яднання дэмакратычных сілаў. напісаў заяву на звальненне з працы. На такі крок яго змусіў дырэктар Слонімскай птушкафабрыкі. Марчыка без яго згоды абавязвалі выконваць дадатковыя работы, якія не ўваходзілі ў яго прафесійныя абавязкі.

**26 ліпеня** Віктара Марчыка звольнілі.



**7 ліпеня** ў Рачкаўшчыне, што паблізу Бакштаў (Шчучынскі раён) у адсутнасць гаспадароў на прыватнай тэрыторыі быў спілаваны крыж, пастаўлены ў гонар камандзіра аб'яднаных збройных сілаў Арміі Краёвай Анатоля Радзівоніка. Па гэтым факце вандалізму старшыня незарэгістраванага Саюзу палякаў у Беларусі Мечыслаў Яськевіч і сябра гэтай арганізацыі Вераніка Себасьцяновіч склалі скаргі ў Гарадзенскую абласную пракуратуру.

Гарадзенскія праваабаронцы апошнімі ў краіне атрымалі адмову на правядзенне пікету 4 жніўня ў падтрымку зняволенага кіраўніка ПЦ “Вясна” Алеся Бяляцкага. Адпаведны ліст з гарвыканкаму прыйшоў праз пошту са значным спазьненьнем Уладзіміру Хільмановічу і Раману Юргелю, а Віктару Сазонаву ўвогуле **6 жніўня.** Само рашэнне Гарадзенскага гарвыканкаму за подпісам намесніка старшыні Зоі Кулешы датаванае 1 жніўнем бягучага году.

# 30-га жніўня – Міжнародны дзень ахвяраў гвалтоўных знікненняў



30-га жніўня адзначаецца Міжнародны дзень ахвяраў гвалтоўных знікненняў. Традыцыя адзначэння Дня зніклых без вестак 30 жніўня распачатая ў 1980-х гадах лацінаамерыканскай Федэрацый сваякоў зніклых людзей FEDEFAM. Міжнародная канвенцыя аб абароне ўсіх асоб ад гвалтоўных знікненняў была прынятая 20 снежня 2006 года Генеральнай асамблеяй ААН. Дакумент падпісалі 57 дзяржаў. 19 краін ужо ратыфікавалі Канвенцыю. Беларусь яе дагэтуль не ратыфікавала.

Тым часам праблема гвалтоўных знікненняў для Беларусі актуальная. Восенню 1999 года ў краіне бясследна зніклі адразу два вядомыя апазіцыянеры — былы міністр унутраных спраў Юрый Захаранка і віцэ-спікер Вярхоўнага Савета XIII склікання Віктар Ганчар, а таксама буйны прадпрымальнік Анатоль Красоўскі. Летам 2000 года бясследна знік аператар расійскага тэлеканала ОРТ Дзмітрый Завадскі.

Следства па справе зніклых палітыкаў, якое працягвалася амаль 14 год, так і не ўстанавіла ні акалічнасцей іх знікнення, ні вінаватых у гэтым. Між тым, тэрмін даўніны па гэтых справах заканчваецца праз год. Пасля 2014 года ўлады могуць са спакойным сумленнем заявіць аб тым, што “мы зрабілі ўсё магчымае, аднак целы зніклых не знойдзеныя, а вінаватыя не ўстаноўленыя”. Афіцыйна пра іх лёс нічога невядома. Паводле неафіцыйных звестак, яны сталі ахвярамі "эскадрону смерці".

Справы зніклых не павінны быць спісаныя ў архіў, ні праз год, ні праз дзесяць. Для грамадства ў іх не можа быць тэрміну даўніны, нават праз 15 год.

# Парад-але

***Парад, прысвечаны Дню Незалежнасці, прайшоў надзвычай пампезна. Гэта ў нас умеюць. Як гаворыцца, хто на што вучыўся. За апошнія два дзесяткі гадоў у Беларусі ўлада добра навучылася дзвюм рэчам. Ладзіць парады і разганяць акцыі.***

***Але апошні парад быў сапраўды нечым адметным. Такога ў Беларусі не было даўно. Менавіта таму і зрабіў гэты парад такі моцны інфармацыйны выбух. Праўладныя СМІ захоплена яго расхвальвалі, інтэрнэт-садружнасць з такім жа імпэтам разнесла ўсё ў парашок. Як толькі яго не называлі. І парадам падчас чумы, і марнатраўствам і безсэнсоўным выкідваннем грошай на вецер, і камедыйным канцэртам, і нават гульнёй у салдацікі. Але былі і станоўчыя меркаванні. Прагучала і такая думка, што ўсё што ні робіцца пад дэвізам незалежнасці, ёсць справай добрай.***

З чумой усё зразумела. Мелася на ўвазе афрыканская чума свіней. І хоць называецца яна афрыканскай, завезлі яе нібыта з Расіі. Як і ўсё негатыўнае для нас. Свінні дохнуць, свіней забіваюць, колюць, рэжуць, замарожваюць і рыхтуюцца скарыстаць у будучым, што прыводзіць да лагічнай высновы, што і афрыканская хвароба з Расіі таксама кансервуецца і захоўваецца для будучых часоў. Таму можна меркаваць, што свінні будуць дохнуць прыкладна з такой жа перыядычнасцю, як праводзіцца парады.

А вось грошай дарэмна людзі шкадуюць. Я дык ні кроплі іх не шкадую. Усядно яны ні ў якім разе не дасталіся б тым, хто пра іх так маркоціцца. Якая розніца як улада скарыстае грошы, якія у кожным выпадку пойдуць на ўтрыманне гэтай улады. Парад не горшы варыянт. І кволыя мускулы прадэманстравалі, і заадно пасіўную частку насельніцтва крыху прывучылі да масавых акцый.

А вось прадэманстраваць трываласць нашай незалежнасці гэты парад не змог. Усё акурат наадварот. ¨н якраз і паказаў, якой кволай яна ёсць. У той час, як сапраўдныя беларускія незалежнікі, такія як Алесь Бяляцкі, сядзяць па турмах, у сталіцу Беларусі, на парад у імя Незалежнасці, прыязджаюць расійскія дэсантнікі. І перапаможным крокам маршыруюць па цэнтральнай вуліцы Мінска. Ганьба. Якая яшчэ краіна дазваляе сабе такое прыніжэнне.



Я служыў у дзесанце. У савецкім. Наша вайсковая частка размяшчалася ў тагачаснай Чэхаславакіі. І як мы патрапплялі на вочы мясцовых жыхароў, яны нам у твары тыкалі двума пальцамі, паднятым у сімвале вікторыі. Гэтьа азначала, што яны не скарыліся перад савецкай акупацыяй і маюць намер перамагчы. Напачатку я не мог зразумець, чаму яны гэта паказваюць толькі дэсантнікам. А пасля мясцовыя мне патлумачылі, што менавіта дэсантнікі ёсць сімвалам акупацыі. І менавіта таму рускія прыслалі не памежнікаў, і не пяхоту, а менавіта дзесант. Сімвал расійскай акупацыі на свята беларускай Незалежнасці.

Ды і сам гарант Канстытуцыі і Незалежнасці, як і ўся яго світа, размаўлялі ў гэтае свята беларускай Незалежнасці выключна на мове чужацкай, якую яшчэ раней зрабілі дзяржаўнай. Ды і само свята прызначанае на той дзень, калі савецкія акупанты занялі Мінск, павыганяўшы з яго іншых акупантаў. Тых акупантаў, з якімі ў свой час дзялілі і перадзельвалі беларускія землі, рэжучы і нашую зямельку, і людскія лёсы ды жыцці. Тых акупантаў, з якімі разам у 1939-м раздулі жудасную вайну супраць чалавецтва. Зрэшты, саветы вайну супраць чалавецтва ў цэлым і супраць кожнага чалавека канкрэтна раздулі яшчэ раней і самастойна. Без дадатковай дапамогі. І скончаць гэтую вайну не збіраюцца. Таму і з’яўляюцца ў Беларусі і расійскія дэсантнікі, і расійскія авіябазы, і расійская мова...

Ну а галоўныя спецслужбы краіны, якія мусяць бараніць нашу незалежнасць і не дапускаць на беларускую зямлю ні чужацкіх авіябазаў і іншаземных дэсантнікаў, самы размаўляюць па-чужацку ды пераследуюць патрыётаў беларускай незалежнасці. І усе сілавыя структуры бэсцяць бел-чырвона-белы сцяг, герб Пагоню, і ганяюць патрыётаў кожнага 25-га сакавіка на вялікае свята беларускай незалежнасці Дзень Волі.

Вось такі вось парад-але. Застаецца толькі крыкнуць: “Але гоп”.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на верасень 2013 году

**1 верасьня**

160 гадоў таму (1853) – У Варшаве нарадзіўся Міхал Федароўскі, фальклярыст, этнограф, археолаг, калекцыянер. Шмат гадоў працаваў на Гарадзеншчыне.

150 гадоў таму (1863) – Каля Барунаў адбыўся бой паміж паўстанцамі і расейскім карным войскам.

85 гадоў таму (1928) – У в. Касута (Вялейскі р-н) нарадзіўся Расьціслаў Лапіцкі, арганізатар і кіраўнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху на Мядзельшчыне і Смургоншчыне ў 1948-50. Расстраляны саветамі 28.10.1950(?).

**2 верасьня**

165 гадоў таму (1848) – Памёр Якуб Фалькоўскі, асьветнік-дабрачынец, рэктар Шчучынскай піярскай школы, аўтар сыстэмы навучаньня глуханямых дзяцей.



15 гадоў таму (1998) – У Менску памёр Ян Матусевіч, уніяцкі сьвятар, дэкан Беларускай Грэцка-Каталіцкай Царквы. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках. З 1980 па красавік 1990 жыў і працаваў у Барунах.

**3 верасьня**

105 гадоў таму (1908) – У Варшаве памерла Марыя Ямант-Дмахоўская (нар. у 1842), удзельніца паўстаньня 1863 году, нявеста Кастуся Каліноўскага. Пахавана на Паванзкоўскіх могілках у Варшаве.

**7 верасьня**

Дзень беларускага пісьменства і друку

**11 верасьня**

75 гадоў таму (1938) – У Наваградку адчынены Дом-музей Адама Міцкевіча.

**12 верасьня**

80 гадоў таму (1933) – Памёр Антон Каменскі, графік і жывапісец. У 1885-91 жыў у маёнтку Ярылаўка (Ваўкавыскі р-н).

**13 верасьня**

30 гадоў таму (1983) – Памёр Марыян Пецюкевіч, дзеяч заходнебеларускага грамадзка-культурніцкага руху, этнограф. У 1940-ых працаваў школьным інспектарам у Ашмяне.

**15 верасьня**

100 гадоў таму (1913) – У в. ¨лкі (Слонімскі пав.) нарадзіўся Рыгор Зыбайла, беларускі палітычна-вайсковы дзеяч, старшыня Слонімскай акруговай Беларускай Народнай Самапомачы ў 1941-42 гг.

**16 верасьня**

345 гадоў таму (1668) – Кароль Рэчы Паспалітай і Вялікі князь ВКЛ Ян Казімер адрокся ад трона.

75 гадоў таму (1938) – НКВД расстраляны Іосіф Мацюкевіч, беларускі мовазнавец. Нараджэнец в. Гернікі (Дзятлаўскі р-н).

**17 верасьня**

115 гадоў таму (1898) – У в. Едначы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Павал Крынчык, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст ТБШ.

**18 верасьня**

20 гадоў таму (1993) – У Астравецкім раёне былі ўрачыста адсьвяткаваныя 100-ыя ўгодкі з дня нараджэньня паэтаў Казімера Сваяка і Янкі Быліны.

15 гадоў таму (1998) – У Менску памёр Віктар Шымук, беларускі пісьменьнік, перакладнік. Нараджэнец в. Зьмяёўцы (Дзятлаўскі р-н). Пахаваны ў Дзятлаве.

**20 верасьня**

110 гадоў таму (1903) – У Баку нарадзілася Натальля Арсеньнева, беларуская паэтка, дзяячка беларускай эміграцыі (ЗША). З 1922 да 1924 жыла ў Слоніме.

10 гадоў таму (2003) – У Гародні каля Каложскай царквы адкрыты помнік Давыду Гарадзенскаму.

**21 верасьня**

95 гадоў таму (1918) – У в. Клетнае (Глускі р-н) нарадзіўся Фёдар Янкоўскі, беларускі мовазнавец. Жыў і працаваў у Гародні.

**24 верасьня**

120 гадоў таму (1893) – У Будславе (Мядзельскі р-н) нарадзілася Паўліна Мядзёлка, акторка, дзяячка беларускай культуры. Часта бывала ў Гародні, у 1919 была арыштавана.

**27 верасьня**

Сусьветны дзень турызму.

480 гадоў таму (1533) – Нарадзіўся (у Румыніі) Стафан Баторы, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі. Жыў у Гародні.

**28 верасьня**

60 гадоў таму (1953) – У аўтакатастрофе загінуў Базыль Камароўскі, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч эміграцыі (Нямеччына, Канада). Нараджэнец Наваградчыны.

**30 верасьня**

285 гадоў таму (1728) – У в. Саламянка (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся (паводле інш. зьв. 30 кастр.) Марцін Пачобут-Адляніцкі, асьветнік, астраном, педагог.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку: жнівень 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка абавязковая

